Гродна
№15 (497),
22 ліпеня 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ







# Рось як аазіс у пустыні жыцця

БЯГУЧЫ ГОД З’ЯЎЛЯЕЦЦА ЮБІЛЕЙНЫМ ДЛЯ ПАРАФІІ РОСЬ (ДЭКАНАТ ВАЎКАВЫСК). РОЎНА 400 ГАДОЎ СПАЎНЯЕЦЦА З МОМАНТУ ПЕРШАГА ЦУДУ, ЯКІ ЗДАРЫЎСЯ Ў КАСЦЁЛЕ ПЕРАД ФІГУРАЙ ЕЗУСА ЖУРБОТНАГА. НА ПРАЦЯГУ СОЦЕНЬ ГАДОЎ У МЯСТЭЧКА ТЛУМАМІ ІДУЦЬ І ЕДУЦЬ ВЕРНІКІ, КАБ ВЫПРАСІЦЬ У ХРЫСТА ПАТРЭБНЫЯ ЛАСКІ. І ЁН АДКАЗВАЕ НА ЛЮДСКІЯ ПАТРЭБЫ...

● працяг на с. 4–5

# Сужэнства, асвечанае Маці Божай

*Падчас сёлетніх урачыстасцей у Тракелях нарадзілася новая сям’я: Артур Мартынконіс з Іўя і Гражына Аўгусцін з Індуры заключылі перад цудатворным абразом Маці Божай сужэнскі саюз. Шмат пілігрымаў, якія стаялі ў чарзе, каб пакланіцца Марыі, былі сведкамі таго, як маладыя сужэнцы прамовілі сакраментальнае “так”, як абяцалі адно аднаму любоў, вернасць, сужэнскую павагу, а таксама што будуць разам да канца – у радасці і смутку, у шчасці і няшчасці...*

● працяг на с. 6



Маладыя ўпэўнены, што сужэнскі саюз, пабудаваны на фундаменце веры і любові, будзе трывалым і шчаслівым

**“Каб атрымаць доступ да сэрца Езуса, трэба давяраць Яму”. Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XVI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мк 6, 30–34**

Сабраліся апосталы каля Езуса і расказалі Яму ўсё, што зрабілі і чаму навучылі. І Ён сказаў ім: “Пайдзіце адны ў пустыннае месца і крыху адпачніце”. Бо так шмат людзей прыходзіла і адыходзіла, што нават не было ім калі паесці. І адплылі яны ў пустыннае месца на чаўне адны. І ўбачылі, што яны адплылі. І шмат хто, даведаўшыся, пешкі збегліся туды з усіх гарадоў і апярэдзілі іх. Выйшаўшы, Езус убачыў мноства людзей і злітаваўся над імі, бо яны былі як авечкі без пастыра. І пачаў іх вучыць многаму.

### АДПАЧЫЦЬ У ПРЫСУТНАСЦІ БОГА

Эўхарыстыя з’яўляецца для вернікаў хвілінай адшукання Езуса, як дасведчылі гэта натоўпы з сённяшняга Евангелля, а таксама месцам знаходжання ў адасобленасці, як гэта рабілі апосталы. Менавіта ў ёй можна знайсці спакой і аздараўленне, што выплывае з сустрэчы з любячым Айцом, адпачыць у Яго прысутнасці і навучыцца чуллівасці да патрэб бліжняга.

Сімвалы хлеба і віна з’яўляюцца выразам дабрыні Усемагутнага да створанага Ім свету. Прымаючы Цела і Кроў Пана, мы ўдзельнічаем у найвялікшым праяўленні Божай любові – у дары Яго Сына для збаўлення чалавецтва, упадабняемся Езусу, каб па Яго прыкладзе аказваць міласэрнасць братам. Падчас Эўхарыстыі хрысціяне таксама напаўняюцца Святым Духам. Веруючыя закліканы не засмучаць Яго праз гнеў, мітуслівасць, зневажэнне, усякую злосць, але быць адзін да аднаго добрымі і міласэрнымі (параўн.: Эф 4, 30–5, 2).

**Як выглядаюць мае канікулы?**

**Ці здольны я на Эўхарыстыі адпачыць ад штодзённых клопатаў і трывог?**

**XVII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 6, 1–15**

Езус адышоў на другі бок Галілейскага або Тэберыядскага мора. Ішло за Ім мноства людзей, таму што бачылі цуды, якія Ён чыніў над хворымі. Езус узышоў на гару і сядзеў там са сваімі вучнямі. А набліжалася Пасха, юдэйскае свята. Калі Езус узняў вочы і ўбачыў, што мноства людзей ідзе да Яго, сказаў Філіпу: “Дзе нам купіць хлеба, каб накарміць іх?”. А казаў гэта, выпрабоўваючы яго, бо сам ведаў, што збіраўся рабіць. Філіп адказаў Яму: “Хлеба на дзвесце дынараў не хопіць, каб кожнаму дасталося хоць крыху”. Адзін з вучняў Ягоных, Андрэй, брат Сымона Пятра, кажа Яму: “Ёсць тут адзін хлопец, які мае пяць ячменных хлябоў і дзве рыбы, але што гэта для такога мноства?”. Езус сказаў: “Загадайце ім сесці”. А было на тым месцы шмат травы. І селі людзі, якіх было каля пяці тысяч. Езус узяў хлябы і, падзякаваўшы, раздаў тым, хто сядзеў; таксама і рыбы, колькі хто хацеў. А калі насыціліся, сказаў вучням сваім: “Збярыце кавалкі, што засталіся, каб нічога не змарнавалася”. Сабралі і напоўнілі дванаццаць кашоў кавалкамі з пяці ячменных хлябоў, якія засталіся пасля тых, хто еў. Калі ж людзі ўбачылі, які цуд учыніў Езус, казалі: “Ён сапраўды прарок, які мае прыйсці на свет”. Калі Езус даведаўся, што хочуць прыйсці і схапіць Яго, каб зрабіць каралём, зноў адышоў на гару адзін.

### БОЖАЕ МАРНАТРАЎСТВА

12 кашоў кавалкаў – гэта цудоўнае пацвярджэнне таго, што Бог не хоча даваць мала. Разумеючы, што чалавеку часцей не хапае, чуючы ўмольную малітву, адорвае яго з невычарпальнай шчодрасцю. З нашай нястачы Бог робіць цудоўны лішак. Дае больш, чым можна ўжыць.

Хрыстос гаворыць, што жадае нам жыцця ў дастатку, у паўнаце (параўн.: Ян 10, 10). Таму мы запрошаны не пакідаць сціплыя людскія рэсурсы толькі для сябе, а раздаваць і дзяліцца з іншымі. Закліканы не чапляцца за нашы “пяць хлябоў і дзве рыбы”, г. зн. за ўсё тое, што нам неабходна для жыцця, а дазволіць, каб Усемагутны размножыў гэта. Тады хопіць усім.

**Ці адкрыты я на патрэбы іншых людзей?**

**Ці шукаю нагоды, каб прымаць Бога ў св. Камуніі?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Паглядзім у вочы Бога!

*Фігура Пана Езуса Журботнага ў Росі прыцягвае да сябе ўсё больш пілігрымаў. Людзі з розных куткоў нашай краіны і з-за мяжы накіроўваюцца ў гэтае выключнае месца ў Гродзенскай дыяцэзіі, каб зазірнуць у нязвыклыя вочы Хрыста – залітыя крывёй, сумныя, але такія пяшчотныя!*

Мука Хрыста, аб якой нагадвае знакамітая сваімі цудамі фігура, з’яўляецца крыніцай нашага збаўлення. Езус ніколі не папракае чалавека за тое, што мусіў пакутаваць за яго грахі. Прагне толькі, каб кожны выкарыстаў плён збаўчай мукі, каб не адштурхоўваў міласэрную любоў, якая ўсё прабачае, каб не пазбаўляў сябе вечнага жыцця, за якое Хрыстос заплаціў такую вялікую цану.

Усемагутны прыходзіць сёння да нас весь у крыві, з ранамі, з прабітымі далонямі і ступнямі, з разарванымі сухажыллямі, увесь пабіты, у сіняках, у брудным і парваным адзенні, з цярновым вянком на галаве. Ён прыходзіць да нас такім, бо такім падаецца сучасны свет са свайго духоўнага боку.

Езус чакае, пакуль мы адкрыемся на Яго з даверам, без боязі і страхаў, пакуль прымем Яго такім і разам будзем несці цяжар ахвярнай любові. Чакае, пакуль адкрыем душу, каб Ён мог ахінуць яе паўнатой сваёй міласэрнасці, а таксама дзяліць з ёй усё, нават крыж. Чакае, што мы захочам прысвяціць Яму жыццё не з абавязку, а з-за шчырай прывязанасці. Збаўца прагне скласці ў нашых сэрцы самога сябе, усе свае чаканні адносна нас.

У гэтым годзе святкуем цудоўны юбілей – 400-годдзе першага гістарычнага ўзгадвання фігуры Пана Езуса Журботнага ў Росі. Шматлікія воты і сведчанні, складзеныя пад прысягай і запісаныя ў кнігах, сведчаць пра аздараўленні, навяртанні і іншыя ласкі, атрыманыя асобамі, якія ўзносілі свае малітвы да Хрыста перад гэтай фігурай. З упэўненасцю можна сказаць, што цудаў і ласк было нашмат больш, але іх ніхто не запісаў і яны засталіся вядомыя толькі Богу.

На пачатку жніўня мы ў чарговы раз накіруемся ў пілігрымцы ў дыяцэзіяльны санктуарый у Рось, каб адчуць на сабе позірк нашага Пана, што прамаўляе да кожнага. Нельга абыякава прайсці міма!

**Дарагія Чытачы!**

Давайце пойдзем у Рось! Зазірнём у акрываўленыя, але поўныя надзеі і цеплыні вочы Хрыста, адкрыем перад Ім сэрца, даручым Яму свае клопаты і радасці, неспакой і надзею. Езус чакае нас, чакае нашай адкрытасці і шчырага запалу. Любіць нас і благаслаўляе.

## “НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ”

# СВ. БЯРНАРД КЛЕРВОСКІ: ЗАСТУПНІК ПАДЧАС ШТОРМАЎ

**Належаў да прадстаўнікоў залатой эпохі XII стагоддзя, багатай на знакамітых святых і вялікіх інтэлектуалаў. Дзякуючы сваёй красамоўнасці быў называны “саладкамоўным”. Лічыцца апекуном падчас стыхійных бедстваў, а таксама ў гадзіну смерці.**

### АБАРАНЯЎ АЎТАРЫТЭТ ПАПАЎ

Бярнард нарадзіўся ў 1090 годзе ў сям’і бургундскай шляхты ў замку Фантэн-ле-Дыжон у Францыі. Меў шмат талентаў і здольнасцей. Заўсёды быў адкрыты на ўздзеянне Бога. Аднойчы ў дзяцінстве ва ўрачыстасць Божага Нараджэння яму аб’явілася Марыя з Дзіцяткам Езус. Гэты досвед незвычайнай чуласці да Найсвяцейшай Панны і Яе Сына застаўся ў ім жывы да канца жыцця.

У 17-гадовым узросце, пасля смерці мамы, даручыў сябе апецы Маці Божай. У гэты час адкрыў, што Бог заклікае яго да служэння ў сваім Касцёле. Маючы 22 гады, накіраваўся ва ўбогі кляштар у Сіто, у якім панавалі Божы дух і жорсткая дысцыпліна. Сярод 30-ці равеснікаў, якія таксама туды ўступілі, аказаліся чацвёра братоў Бярнарда і двое дзядзькаў, якіх ён на працягу некалькіх месяцаў рыхтаваў да жыцця ў супольнасці.

З пачатку навіцыяту Бярнард вёў глыбокае духоўнае жыццё, разважаў Святое Пісанне, чытаў працы Айцоў Касцёла, утаймоўваўся і часта пасціў. Умеў спалучаць глыбокую філасофскую і тэалагічную думку з асабістым містычным досведам. Калі яму не хапала часу на малітву на працягу дня, прысвячаў на размову з Богам начныя гадзіны.

Нягледзячы на тое, што меў слабы стан здароўя, абат кляштара св. Стэфана Хардзінга выслаў яго разам з 12-асобавай групай на новую пляцоўку цыстэрцыянцаў у Клерво. Сяброўства з біскупам Парыжа, а таксама шляхецкае паходжанне Бярнарда паспрыялі заснаванню новых цыстэрцыянскіх устаноў на тэрыторыі ўсёй Францыі, а трохі пазней – таксама ў іншых краінах Еўропы. Пад канец яго жыцця манастыроў было каля 300.

У 25-гадовым узросце Бярнард стаў абатам. Гэтую паслугу выконваў на працягу 38-мі гадоў. Абараняў аўтарытэт чарговых Папаў, змагаўся з ерассю катараў і філасофаў тагачаснага свету, галоўным чынам Абеляра. Падтрымліваў законна выбранага папу Інакенція II. На працягу 7-мі гадоў падарожнічаў па ўсёй Еўропе, каб сустрэцца з каралямі і схіліць іх да паслухмянасці новаму Біскупу Рыма. Вёў багатую перапіску са знакамітымі тэолагамі і мысліцелямі сваёй эпохі.

Адышоў да Пана 20 жніўня 1153 года. Быў кананізаваны ў 1174 годзе папам Аляксандрам III. У 1830 годзе абвешчаны доктарам Касцёла.

### ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. БЯРНАРДА КЛЕРВОСКАГА?

Прыкладам свайго жыцця святы вучыць, што да Бога чалавек павінен набліжацца ў духу пакоры і са скрушлівым сэрцам. Прыгадвае, што варта і нават трэба ўсе свае штодзённыя справы даручаць Марыі, бо Яна здольна выпрасіць у свайго Сына ўсё.

### ЦІКАВА!

Быў выдатным аратарам. Слухачы прымалі яго навуку блізка да сэрца і адчувалі жаданне змяніць сваё жыццё. Дзе ён толькі не з’яўляўся, самых высакародных юнакоў прыцягваў за сабой у ордэн.

### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

“Не знойдуць Бога тыя, хто шукае Яго толькі да часу, а перастае шукаць у хвіліны спакусы. Калі хочаш зразумець і здабыць Хрыста, зробіш гэта значна хутчэй, ідучы па Яго слядах, чым чытаючы аб Ім кнігі”.

### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. Бярнарда Клервоскага 20 жніўня.



*У іканаграфіі св. Бярнард прадстаўлены ў цыстэрцыянскім уборы, часам побач з Маці Божай з Дзіцяткам Езус. Яго атрыбутамі з’яўляюцца кніга, абацкі крыж, распяцце, прылады Мукі Пана, пісьменніцкае пяро, ружанец, 3 інфулы ля ног, пчаліны рой, вулей.*

*Кс. Юрый Марціновіч*



# Молімся ў інтэнцыі кананізацыі Мар'яны Бярнацкай!

***Усё больш жанчын, асабліва ўдоў, свекрывей і нявестак, звяртаюцца да бл. Мар'яны Бярнацкай як да апякункі. Яе заступніцтва перад Богам выпрошваюць цэлыя сем'і, а таксама сужэнствы, якія не могуць мець дзяцей, і жанчыны ў благаслаўлёным стане. Падчас II Сусветнай вайны бл. Мар'яна Бярнацкая аддала жыццё ўзамен за ацаленне цяжарнай нявесткі.***

***Ужо традыцыйна ў 2-ую суботу ліпеня на месцы трагічнай падзеі ў Навумавічах каля Гродна адбываюцца ўрачыстасці на ўспамін расстраляных падчас II Сусветнай вайны жыхароў Гродна і Ліпска, сярод якіх была і Мар'яна Бярнацкая. Сёлета ў іх прыняла ўдзел і дэлегацыя з Польшчы, радзімы благаслаўлёнай, разам з яе праўнукамі Станіславам Бэтко і Гражынай Сэрафін.***



Прысутныя на ўрачыстасці вернікі маліліся ў адной інтэнцыі: каб Бог захаваў свет ад войнаў, голаду і агню



**Гражына Сэрафін,**
праўнучка
бл. Мар'яны Бярнацкай

*У маім родным доме шмат расказвалі пра прабабулю і пра значэнне таго ўчынку, на які яна рашылася. Бабуля Ганна часта даставала з шафы здымак Мар'яны, цалавала яго і з вялікай пашанай гаварыла: "Мая мама". Ніколі не сказала пра яе дрэннага слова. Памерла 4 гады таму ва ўзросце 98-мі гадоў. Усім сваім жыццём яна праз пакорнасць і любоў сведчыла пра тое, што Пан Бог існуе і што варта прысвячаць Яму сябе.*

*Прабабуля заўсёды была для нас святасцю, авеянай пэўнай таямніцай. Разам з тым, яна з'яўлялася часткай нашай сям'і, звычайнай жанчынай, адважнай маці.*

*Веліч учынку бл. Мар'яны заключаецца ў тым, што яна пайшла на смерць за сваю нявестку, не за сына. Лічу, што некаторыя жанчыны паступілі б інакш: спачатку ратавалі б свае дзіця, таму што, гледзячы па-людску, уласны сын для маці значна бліжэйшы. Аднак бл. Мар'яна вырашыла аддаць сваё жыццё за нявестку, якая чакала дзіця. Гэта вялікая мудрасць свякрові і бабулі і, разам з тым, вялікая мудрасць адданай маці, якая не пакідае свае дзіця ў самыя складаныя хвіліны, знаходзіцца побач да самага канца.*

*Прысутнасць стольких людзей з розных куткоў Беларусі і Польшчы, якія штогод прыбываюць на Фарты ў Навумавічах, каб ушанаваць чарговую гадавіну мучаніцкай смерці бл. Мар'яны, сведчыць пра тое, што Бог вельмі палюбіў маю прабабулю і праз яе стаў дзейнічаць. Любоў вялікая і ніколі не вядома, калі і ў якіх акалічнасцях яна праявіцца. Зусім не абавязкова заканчваць вядомыя навучальныя ўстановы, каб стаць мужным чалавекам. Подзвіг, раўназначны подзвігу св. Максімільяна Кольбэ, здзейсніла звычайная вясковая жанчына...*



Пасля заканчэння ўрачыстасцей многія яшчэ трывалі ў цішыні на малітве, дзякуючы ўсім сведкам веры за іх вялікую адвагу



**Станіслаў Бэтко,**
праўнук
бл. Мар'яны Бярнацкай

*Ва ўрачыстасці на ўспамін той страшнай трагедыі, якая адбылася ў лесе ў Навумавічах, дзе была расстраляна мая прабабуля, я ўдзельнічаю ўжо 4-ты год запар. І кожны раз вяртаюся духоўна ўзмоцнены. Вельмі ганаруся тым, што з маёй сям'і паходзіць адважная асоба, якая словы з Евангелля "ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх" (Ян 15, 13) пераменіла ва ўзорны ўчынак.*

*Мне здаецца, сучасныя людзі ўцякаюць ад цярпення, усімі спосабамі стараюцца вызваліцца ад яго. Яны не здольныя прымаць жыццёвыя ўдары. Лёгка ламаюцца, губляюць сэнс усяго, слабеюць нават пад невялікім цяжарам, бачачы першую большую перашкоду. У той жа час бл. Мар'яна прыгадвае нам, што цярпенне ўпісана ў кожную чалавечую гісторыю. Вучыць цярплівасці ў нясенні крыжа і ўспрыманні жыцця такім, якое яно ёсць.*

*У сваім зямным жыцці мая прабабуля прайшла вельмі многае. Жыла ў неспакойны час, калі адбываліся 2 сусветныя вайны. Вельмі рана адчула сірочую долю. Дасканала ведала, што значыць голад і нягоды. Шмат выцярпела з-за смерці дзяцей і мужа. Нягледзячы на гэта, яна ўсё яшчэ ўмела цешыцца жыццём, пялегаваць спакой у сэрцы і паглыбляць сваю веру. Штодня малюся аб тым, каб Бог даваў мне такую веру, якую мела мая прабабуля!*

*Я вельмі хачу, каб культ бл. Мар'яны Бярнацкай далей развіваўся на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі, дзе яна была расстраляна, а таксама на тэрыторыі Элцкай дыяцэзіі ў Польшчы, з якой паходзіла і дзе жыву зараз я. Хачу, каб пра яе і пра веліч яе гераічнага подзвігу ведала як мага больш людзей.*

*З лютага гэтага года ў парафіяльным касцёле ў Ліпску – родная мясцовасці маёй прабабулі – кожную 2-ую суботу месяца адпраўляецца св. Імша ў інтэнцыі яе кананізацыі. Вернікі складаюць просьбы, якія ўзносяцца да Пана Бога праз заступніцтва бл. Мар'яны Бярнацкай, і падзякі за атрыманыя ласкі. Заахвочваю ўсіх людзей добрай волі да шчырай малітвы аб яе хуткай кананізацыі!*

Кс. Юрый Марціновіч

## Слова для жыцця

**Папа Францішак**



*Мы павінны імкнуцца адкрываць нашыя сэрцы і розумы, каб здолець прымаць бяспечную рэальнасць. Справа ідзе пра веру: адсутнасць веры – гэта перашкода для Божай ласкі.*
*Многія ахрышчаныя жывуць так, быццам Хрыстос не існуе: яны паўтараюць жэсты і знакі веры, але не адпавядаюць рэальнай прыхільнасці да асобы Езуса і да Яго Евангелля. Кожны хрысціянін пакліканы да таго, каб паглыбіць гэтую фундаментальную прыналежнасць, імкнучыся сведчыць пра яе сваім паслядоўным ладам жыцця, путэводнай ніткай якога з'яўляецца любоў.*

Фрагмент прамовы падчас малітвы "Анёл Панскі", 08.07.2018

**Кс. абп Габар Пінтэр**



*Мы ведаем, што Бог заклікае ўсіх нас да святасці, кожнага ў адпаведнасці з паклісаннем, з уласным станам жыцця. Мы таксама ведаем пра цяжкасці, якія ўзнікаюць пры дасягненні гэтай мэты, асабліва сёння, у свеце паўсюднага індывідуалізму, геданізму, якія імкнуцца аддаліць нас ад "духоўных рэчаў".*
*Стаць святым не проста: гэта як узыходжанне на гару, вяршыня якой – Хрыстос. Тут неабходна стараннасць, прысвячэнне, жаданне і асабліва адкрытае сэрца, якое нястомна трывае ў слуханні Божага слова, што падобна ліхтару асвятляе нашы крокі. У гэтым падарожжы, працягласцю ў жыццё, неабходна часта звяртацца да Марыі, ушаноўваючы тытулам Маці Божай з гары Кармэль, і прасіць Яе весці за руку да Госпада. Трэба памятаць пра сведчанне Кармэля і прыклад сузірання кармэлітаў, які можа быць выкарыстаны ў кожным пакліканні ці стане жыцця.*

Фрагмент гаміліі, прамоўленай на ўрачыстасці ў дыяцэзіяльным санктуарыі ў Гудагаі, 15.07.2018

**Кс. бп Антоній Дзям'янка**



*Калі нас адорваюць дабром, мы імкнёмся аддзячыць, бо адчуваем такі маральны абавязак. Але сапраўдная пачуццё ўдзячнасці вынікае з любові. Можна сказаць, што ўдзячнасць з'яўляецца асаблівай формай любові. Удзячны можа быць той, хто любіць. Эгаісту цяжка дзякаваць, таму што ён вельмі часта прыпісвае заслугі ўласным намаганням. [...] Адсутнасць падзякі можа сведчыць пра дамінацыю над другой асобай. А гэта перавага можа паступова пераўтварыцца ў пагарду. І тады сапраўды паміраюць прыязныя адносіны паміж людзьмі. Калі знікае пачуццё ўдзячнасці, тады вельмі часта знікаюць і іншыя каштоўнасці: зразуменне іншага чалавека, адчуванне залежнасці, дабро і любоў.*

Фрагмент гаміліі, прамоўленай на ўрачыстасці ў дыяцэзіяльным санктуарыі ў Тракелях, 07.07.2018




◆ *"Ecclesia Sponsae Imago" ("Вобраз Царквы-Нявесты") – пад такой назвай у Ватыкане апублікавана інструкцыя аб кансэкраваных паннах. Дакумент, падрыхтаваны Кангрэгацыяй па справах Інстытутаў кансэкраванага жыцця і таварыстваў апостальскага жыцця, закліканы дапамагчы лепш зразумець харызму гэтай формы манаскага жыцця, яе асаблівасці і багацце. Сёння кансэкраваныя панны прысутнічаюць у многіх дыяцэзіях на ўсіх кантынентах. Апошняя прыблізная статыстыка паказвала на існаванне прыкладна 5-ці тыс. такіх жанчын у свеце.*

◆ *Папа Францішак арганізаваў у Бары (Італія) сустрэчу на тэму будучыні хрысціян Блізкага Усходу. На яе былі склікаты прадстаўнікі ўсіх блізкаўсходніх Цэркваў. Гаворка ішла пра будучыню ўсяго рэгіёна, неад'емную частку якой складаюць паслядоўнікі Хрыста. Пасланне з Бары было таксама звернута да арабскага і мусульманскага свету, нагадвала пра важнасць хрысціян для пабудовы міру і справядлівасці ў рэгіёне.*

◆ *У семінарыі Маці Божай Гвадэлупскай у Дэнтоне (Небраска) новым генеральным настаяцелем Святарскага Брацтва Святога Пятра выбралі кс. Андрэя Камароўскага. Яго папярэднікам на гэтай пасадзе быў кс. Джон Берг. Кс. Андрэй уступіў у Міжнародную семінарыю св. Пятра ў Віграцбадзе пасля заканчэння эканамічнага факультэта ў Познанскім універсітэце. З моманту пасвячэння, атрыманых у 2006 годзе, выконваў паслугу ў Польшчы, Бельгіі і Галандыі. З 2012 года быў асістэнтам генеральнага настаяцеля і як Галоўны стыпендыят служыў у франкузскамоўнай частцы Швейцарыі.*

◆ *12 месцаў у Японіі, звязаных з гісторыяй праследавання хрысціян у XVII–XIX стст., прызнаны сусветнай спадчынай ЮНЕСКА. У гэты спіс увайшлі катэдральны сабор Нагасакі – найстаражытнейшая святыня ў Японіі, рэшткі замка Гара – месца паўстання каталікоў у 1637 годзе, селішча Сакіцу, дзе хрысціяне падпольна практыкавалі і перадавалі сваю веру. Як адзначае арцыбіскуп Нагасакі Джозэф Міцуакі Такамі, такім чынам каталікі Японіі атрымалі магчымасць для евангелізацыі.*

◆ *Тысячы аргенцінцаў маліліся ў нацыянальным марыйным санктуарыі ў Лухане, просячы, каб законапраект, які легалізуе аборты ў іх краіне, не быў зацверджаны. Згодна з прапанаванымі зменамі ў законе, кожная жанчына змажа зрабіць аборт аж но да 9-га месяца цяжарнасці, а непаўналетняя дзяўчына не будзе абавязана паведамляць аб гэтым ні бацькам, ні ўладам. Працаўнікі законапраекта сцвярджаюць, што ён будзе дзейнічаць на карысць асобаў, якія здзяйсняюць сексуальныя злачынствы. Калі закон будзе прыняты, Аргенціна стане першай краінай Паўднёвай Амерыкі, якая легалізавала аборт.*

*credo.pro; pch24.pl; niedziela.pl*

# Рось як аазіс у пустыні жыцця

● працяг са с. 1



***Тып выявы "Езус Журботны" з'явіўся ў XII стагоддзі ў Візантыі. Да пачатку XIV стагоддзя перабраўся ў Еўропу. Хрыстос прадстаўлены ў цярновым вянку, з крывавымі слядамі ад бічавання і з прыладамі мукі. Вобраз Збаўцы ў задуменнай паставе, з падпіраючай шчаку рукой ілюструе смутак і боль за чалавецтва. Імем Рыма гэты вобраз на шмат гадоў забяспечваў адпушчэнне грахоў вернікам, якія будуць сузіраць на яго з адпаведнай лагоднасцю.***

### З ГІСТОРЫІ КАСЦЁЛА І ПАРАФІІ

Першыя згадкі аб утварэнні каталіцкай парафіі ў Росі адносяцца да 1611 года. З таго часу на тэрыторыі мястэчка адзін аднаго змянілі 3 касцёлы. Першы, драўляны, быў пабудаваны ў канцы XVI стагоддзя, асвечаны пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Новы драўляны касцёл на тым самым месцы пабудаваны ў 1682 годзе і асвечаны пад новым тытулам – Найсвяцейшай Тройцы.

Будаўніцтва мураванага касцёла пачалося ў 1770 годзе, але па невядомых прычынах зацягнулася. Доўгі час святыня заставалася ўзнесенай толькі да вокнаў. Новы этап будаўніцтва распачаўся ў 1802 годзе, а ў 1807 быў скончаны. Гэта той касцёл, які існуе і зараз. Яго завяршылі не па тым праекце, што планаваўся спачатку. Падчас грунтоўнага рамонту ў касцёле ў 1901–1903 гадах быў выкананы новы галоўны алтар, 2 бакавыя алтары, хрысцільня, стацыі Крыжовага шляху, а таксама адрэстаўрыраваны амбон. У такім выглядзе святыня існуе і сёння.

У 2012 годзе дэкрэтам біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча парафіяльнаму касцёлу ў Росі нададзены тытул дыяцэзіяльнага санктуарыя.

### ФІГУРА ЕЗУСА ЖУРБОТНАГА

У касцёле ў Росі знаходзіцца знакамітая фігура Езуса Журботнага. Па легендзе, яе вылавілі ў рацэ мясцовыя рыбакі. Згодна з іншымі звесткамі, фігура дзіўным чынам прыбыла з Ліванскіх гор.

Спачатку яна знаходзілася ў бабінцы касцёла. Затым была ўсталявана ў левым бакавым алтары, а пасля перанесена ў галоўны алтар. Урачыстая падзея з гэтай нагоды адбылася 14 чэрвеня 1772 года. Як паведамляецца ў архіўных даных парафіі, "у дзень перанясення фігуры а 3-яй гадзіне дня з гармат стрэлілі, пасля чаго капэла іграла на вежы, у той час як сабраліся годныя як духоўныя, так і свецкія асобы...".

Сёння фігура засланяецца абразом, што прадстаўляе эпізод з жыцця Пана Езуса, які пішa на касцёльнай падлозе яўрэям, якія прывялі распусніцу: "Quis sine peccato est vestrum, primus in illam lapidem mittat" ("Хто без граху, няхай першы кіне ў яе камень"). Штодня фігура адкрываецца на распачацце св. Імшы (раней адслаэлялася толькі па святах).

У залежнасці ад літургічнага перыяду, на фігуру Езуса Журботнага ўскладаюць шаты адпаведных 4-ох колераў. Часта ў звычайны перыяд фігура апранута ў шаты чырвонага колеру, таму што больш прадстаўляе Хрыста Цярпячага, убічаванага, укаранаванага цернямі, пакрытага пунсовым плашчом.

### ЦУДЫ

Фігура Езуса Журботнага ў Росі славіцца шматлікімі ацаленнямі і аздараўленнямі, якія былі выпрашаны перад ёю ў Збаўцы. Першы цуд здарыўся яшчэ ў 1618 годзе. Невідушчая жанчына падчас Раратаў захацела паспавядацца і была адпраўлена да статуі Хрыста, які знаходзіўся ў бабінцы касцёла. Ёй было патлумачана, што знаходзіцца перад спаведнікам. "Калі прасіла ўдзяліць ёй Камунію, ксёндз спытаўся, у каго была ў споведзі (бо спавядаў ён адзін). Жанчына адказала: «Той спаведнік, што сядзіць у бабінцы, выслухаў маю споведзь, а калі адпусціў мне грахі, пачала бачыць». Калі ксёндз пытаўся людзей, якія прысутнічалі на набажэнстве ў бабінцы, ці была гэта праўда, пад прысягай прызнаваліся, што ведалі спавядаючуюся і чулі, як яна прымала адпушчэнне, і што ўжо пасля вяртання зроку без правадыра пайшла да Камуніі", – гаворыцца ў "Кнізе ласкаў і цудаў Пана Збаўцы нашага ў рымска-каталіцкім касцёле ў мястэчку Рось Ваўкавыскага павета



Багуслава Панкова

*Вельмі шмат людзей збіралася ў парафіі Рось некалькі дзясяткаў гадоў таму на ўрачыстасць Спаслання Святога Духа. Святкаванне адбывалася аж 3 дні. Людзі звычайна прыходзілі раней, каб знайсці ў мясцовых вернікаў прытулак. Кожны дом быў поўны пілігрымаў! У нас у хаце было толькі 2 пакоі, але і там не было дзе ступіць: усюды на падлозе спалі людзі. Некаторыя прасіліся ў хлеў на сена. Там жа мая мама закрывала пад ключ веласіпеды людзей, якія прыязджалі з бліжэйшых мясцовасцей: Ваўкавыска, Мастоў, Рагозніцы, Струбніцы, Рэплі... На веласіпедах звычайна ехалі маладзейшыя, старэйшыя ж прыязджалі на конях. Вуліцы настолькі былі застаўлены павозкамі, што да касцёла ледзьве можна было дабрацца. Шмат хто ішоў пешшу. Людзі босымі прыходзілі ў Рось, прасілі абмыць ногі, абувалі чаравікі і ішлі ў касцёл. Святыня ніколі не змяшчала ўсіх – людзі стаялі каля яе.*

*Цяпер касцёл напаўняюць меншыя тлумы. Але мы не менш шчаслівыя, што пра нашу парафію ведаюць і цягнуцца сюды сэрцам.*



Станіслаў Леута

*Усе свае 69 гадоў належу да парафіі Рось. Памятаю, як даўней людзі натоўпамі прыходзілі ў наш касцёл, прыязджалі з Польшчы, Літвы да цудоўнага нашага Езуса... Мы, вернікі, вельмі ганарымся сваёй святыняй, Езусам Хрыстом, хочам Яго праслаўляць, каб пра Яго ўсе ведалі. У гэтым прагненні ўсё наша жыццё!*

*Езус Хрыстус аб'явіўся ў нашай мясцовасці,*
*І пайшлі вернікі да касцёла ў Рось.*
*Ён быў у кайданах, страшна бічаваны...*
*Езус Хрыстус, цернем укаранаваны, змілуйся над намі!*
*Фігуру Збаўцы ў галоўны алтар ўстанавілі*
*І адпушчэння грахоў прасілі.*
*Ласкі былі выпрашаны, цуды на свет аб'яўлены.*
*Езус Хрыстус, цернем укаранаваны, змілуйся над намі!*

*Мы разам молімся да Збаўцы, выпрошваем у Яго неабходныя ласкі, а таксама адпушчэнне грахоў для сябе і ўсяго свету. Ужо не можам без Бога! Ранкам, у абед ці ўвечары абавязкова памятаем пра тое, каб накласці на сябе крыж, цалкам давяраючы сваё жыццё Найвышэйшаму.*



Ірына Хільмановіч

*Рось – асаблівае месца для мяне, шмат звязана з ім. Упершыню пабывала тут з мамай на рэкалекцыях, якія праводзіў а. Джэймс Манджакал. Пасля 2-ух дзён я пачала заўважаць, як штосьці ўва мне змяняецца. Не да канца гэта разумела, але мне падабалася. А потым неяк пачула пра пілігрымку ў Рось. З задавальненнем вырушыла ў шлях, і ўжо хаджу штогод. Там служу сваім спевам.*

*Памятаю, як перад паступленнем ва ўніверсітэт я не ведала, куды мне падацца, не магла вырашыцца. І прыехала ў Рось на рэкалекцыі з кс. Янам Рэчэкам. Падчас адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту с. Станіслава сказала мне словы, якія памятаю да гэтага часу. Яны дапамаглі мне вызначыцца і абраць жыццёвую дарогу.*

*Рось – гэта месца, дзе я аддаю Хрысту свае слабасці, стомленасць, грахі, з якімі прыходжу. Тут я напаўняюся Святым Духам, сіламі, Божым блаславеннем. Адчуваю сябе ў Росі як дома ў Таты, які з любоўю прымае мяне такой, якая я ёсць!*



# Езус не абяцаў жыццё без цяжкасцей

***Пробашч парафіі і кусташ Дыяцэзіяльнага санктуарыя Пана Езуса Журботнага ў Росі кс. Чэслаў Паўлюкевіч разважае над праблемамі, якія вядуць чалавека да страты шчасця.***

***– Сёння, напэўна, няма ў Беларусі месца, дзе б не чулі пра мястэчка Рось. Чым яно паспела праславіцца?***

– Ва ўсім свеце ёсць мясціны, выбраныя самім Богам, дзе дзейнічае асаблівая ласка. Мы гаворым і пра Рось, і пра Тракелі, Будслаў, Браслаў, Жыровічы, Вільнюс, Чанстахову, Лурд, Фаціму… У гэтых месцах чалавек перажывае тое, што не можа адчуць у іншай святыні, дома, у лесе, у полі, хоць Бог жывы ў сэрцы кожнага з нас.

Калі я пытаюся ў людзей, ці ўсюды ў зямлі ёсць вада, мне звычайна адказваюць: “Так, усюды”. І маюць рацыю. Толькі каб дабрацца да вады, дзесьці трэба выкапаць калодзеж на глыбіню 5 метраў, дзесьці прабурыць скважыну на 10 метраў, а ў пустыні – нават на 200–300. У той жа час у прыродзе ёсць месцы, дзе не трэба дабірацца да вады, бо яна сама выходзіць з зямлі. Гэта крыніцы. Таму падобныя месцы вельмі трапна параўнаць з крыніцамі. Дастаткова, каб чалавек прыйшоў сюды, і ён ужо можа напіцца.

***– Чаго людзі шукаюць у Росі? Што тут знаходзяць?***

– Вельмі часта, амаль няспынна, тут адбываюцца рознага роду цуды, ацаленні, вызваленні ад залежнасцей. Многія аддаюць Богу свае грахі – лёгкія і цяжкія, тыя, якія насілі на працягу доўгага часу. Шмат хто адкрывае іх для сябе тут, таму што знаходзіцца ў месцы асаблівай Божай ласкі. Людзі выходзяць з дэпрэсіі, знаходзяць сапраўдны сэнс жыцця. Гэта вялікая радасць!

***– А што, увогуле, робіць людзей няшчаснымі?***

– Сёння хрысціяне шукаюць жыцця без праблем. І калі веруючы чалавек пастаянна сутыкаецца з цяжкасцямі, а яго сусед, умоўна, жыве па прынцыпах дарвінізму і ўсё ў яго складваецца добрым чынам, то ў душы хрысціяніна ўзнікае канфлікт. Але Езус ніколі не абяцаў сваім вучням жыццё без праблем. Ён папярэджваў пра цяжкасці. У чым жа тады радасць Евангелля? Хрыстос абяцаў, што дасць сілы быць вышэй любой праблемы, нават праблемы смерці.

І калі чалавек прымае гэтую праўду і жыве з Езусам, ён атрымлівае сілы. Жыццё змяняецца, змяняецца яго ўнутраны стан, нават калі праблема застаецца. Але чалавек можа і не напоўніцца гэтай сілай, таму што закрываецца ад Бога, не дазваляе Яму дзейнічаць у жыцці. Мне вельмі падабаецца назва кнігі кс. Яна Рэчэка – “Дазволь Езусу змяніць тваё жыццё”. Гэты выраз азначае, што Хрыстос прагне для ўсіх нас шчасця, але захоўвае дар, дадзены чалавеку Богам, які называецца воляй.

***– Чалавек, які адказвае на прапанову Хрыста, можна сказаць, “перанараджаецца”?***

– Абнаўленне можа быць заўважнае не адразу. Часам чалавек усведамляе гэта толькі праз некалькі месяцаў ці гадоў. Але каб падтрымліваць гэты стан, неабходна рабіць наступныя крокі: рэгулярна маліцца, чытаць Біблію, прыступаць да споведзі, прымаць св. Камунію. Як толькі чалавек спыняецца на гэтым шляху, сілы знікаюць і ён падае. Неабходна разумець, што калі аднойчы прапалоць агарод ад пустазелля, гэтага хопіць ненадоўга. Каб зямля магла прыносіць плён, яе трэба ачышчаць рэгулярна.

***– Вядома, для гэтага патрэбна прыкладваць шмат намаганняў…***

– Як кажуць, “каб рыбу есці, трэба ў ваду лезці”. Мы ведаем, што св. Пётр з рыбакамі цэлую ноч працавалі, каб налавіць рыбы. Раніцай яны былі галодныя, стомленыя, злыя, бо не ўдалося злавіць ніводнай рыбіны. А Езус сказаў ім: “Закіньце нерат па правы бок лодкі, і зловіце” (Ян 21, 6). І калі так зрабілі, ужо не маглі выцягнуць нерат на бераг ад мноства рыбы. Яны паслухаліся і атрымалі ўзнагароду, Хрыстос адарыў іх Божай ласкай. Але яны павінны былі закінуць нерат – у гэтым быў іх удзел.

***– Што б Вы як святар хацелі сказаць кожнаму чалавеку, нават незнаёмаму, якога сустракаеце на сваім шляху?***

– У гэтым я хацеў бы наследаваць Марыю… У Святым Пісанні ёсць фрагмент, калі чалавек сутыкнуўся з праблемай на вяселлі: не хапіла віна. І Маці Божая тады паказала на свайго Сына і сказала вельмі коратка і проста: “Тое, што Ён скажа вам, зрабіце” (Ян 2, 5)…



*“Кніга ласкаў і цудаў”, 1745 год*

з 1745 года”. Яна была састаўлена кс. Сімяонам Мачарскім, роскім плябанам.

З 1736 года ў кнізе задакументаваны наступны выпадак: “Сын спадара Андрэя Брадоўскага, які меў імя Дыянісій, 2-гадовае дзіця без надзеі на выжыванне, хварэла на працягу 5-ці нядзель. Калі хлопчык ужо паміраў, яго прынеслі ў касцёл і паклалі перад алтаром Пана Езуса. Ляжаў там, а пасля адпраўленай св. Імшы адразу вярнуўся да здароўя і пачаў у касцёле як дзіця клікаць тату”.

“Яго дачка Анастасія Брадоўская ў вігілію Божага Цела патанула ў сажалцы… Знойдзеная пад трубой і дастаная з вады, яна была мёртвай ужо каля 2-юх гадзін. Ахвяраваная Тваёй Маці Пану Езусу Роскаму, пасля складання ахвяры на 3 св. Імшы, ажыла”, – гаворыцца ў кнізе за 1740 год.

## ВОТЫ

Па абодвух баках фігуры Езуса Журботнага знаходзяцца шматлікія воты. Толькі ў 1700 годзе іх налічвалася 32, у 1775 годзе – 210. Цяпер іх каля некалькі соцень.

На некаторых вотах ёсць надпісы, альбо яны ўжо сваёй формай (напр.: сэрца, нага, рука, постаць чалавека і да т. п.) інфармуюць аб ласках, атрыманых ад Бога. У “Кнізе ласкаў і цудаў” апісаны некаторыя воты і прозвішчы ахвярадаўцаў, калі яны былі складзены і ў якіх інтэнцыях.

Гледзячы на вялікую колькасцю вотаў, запісаных у кнізе і павешаных вакол фігуры Хрыста Журботнага, можна зрабіць вывад, што ўчыненых цудаў было нашмат больш. Як апавядаюць вернікі, апісаныя і пацверджаныя цуды – толькі некаторыя з іх. Не ўсе аздараўленні і навяртанні былі задакументаваныя. Цуды здараюцца і сёння.

***Вестка аб тым, што “роскі” Хрыстос уласнай рукой бласлаўляе і ўразлівы да людскіх цярпенняў, хутка разышлася па ваколіцы. Ужо сотні гадоў на ўрачыстасці Спаслання Святога Духа і Найсвяцейшай Тройцы з’язджаюцца шматлікія вернікі. Каб ушанаваць Езуса ў цудоўнай фігуры, сюды крочыць незлічоная колькасць пілігрымаў. Тлумы прыязджаюць у Рось, каб прыняць удзел у рэкалекцыях і знайсці выхад са складаных жыццёвых сітуацый.***

***Кожны, хто адкрыта, з даверам прыходзіць да Езуса, атрымлівае. Атрымлівае тое, у чым мае патрэбу, і нават больш. А ўсё чаму? Бог вельмі шчодры на ласкі!***



**Шмат людзей з даўніх часоў прыязджалі і зараз прыязджаюць у Рось у пошуку вырашэння жыццёвых праблем. Для гэтага яны прымаюць удзел у рэкалекцыях, якія арганізоўваюцца ў парафіі. З 2004 года іх праводзілі такія вядомыя ў свеце рэкалекцыяністы, як а. Руфус Перэйра, а. Джэймс Манджакал, а. Джон Башабора, кс. Ян Рэчэк. З часам ўзнікла неабходнасць стварэння ў парафіі “духоўнага санаторыя”, дзе людзі змогуць спыніцца і на некаторы час “закрыцца” ад свету, каб Бог прамовіў да іх у цішыні. Такім чынам паўстаў рэкалекцыйны дом, які ў 2017 годзе асвяціў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.**

**Бліжэйшыя рэкалекцыі ў Росі адбудуцца:**
**27–29 ліпеня – “Да ацалення праз прабачэнне”,**
*кс. кан. Юзаф Ганьчыц;*
**10–12 жніўня – “Не бойся, толькі вер…” (Мк 5, 36),**
*кс. Юрый Кузьміч;*
**24–26 жніўня – “Сем смяротных грахоў” (згодна вучэнню Айцоў Касцёла),**
*кс. Аляксей Раманчук.*

***Для ўдзелу ў духоўных практыкаваннях неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28. Па пытанні запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу а гадзінах: 11.00–12.00, 20.00–21.00.***

*Я паехала на рэкалекцыі ў Рось, таму што не мела душэўнага спакою. Была раздражнёнай, злоснай. Часта зрывалася на мужы, дзецях. Не разумела ўжо, што такое зло, а што такое дабро. Чытала гараскопы, хадзіла да варажбітак, захапілася фэн-шуем. Мае дзеці казалі, што гэта грэх, а я не верыла. Памятаю, калі а. Руфус Перэйра маліўся нада мной, я адчула, як штосьці літаральна выйшла з мяне, зразумела, колькі нядобрага ўчыніла ў жыцці. Я вельмі ўдзячная Богу за тое, што Ён прабачыў мяне, выратаваў і паказаў на шлях да ачышчэння.*

*Марына, Мінойты*

*Пасля рэкалекцый у Росі непакоіў моцны кашаль з рвотай. Але я атрымаў дар навяртання! Пачаў штодня маліцца на ружанцы, вызваліўся ад алкагольнай і нікацінавай залежнасцей. А курыў да гэтага 40 гадоў…*

*Юзаф, Малэйкаўшчына*

*Я ўвесь час жыла з пастаянным пачуццём віны. З-за гэтага часта была плаксівай, перажывала нервовыя зрывы. Я ацалілася падчас рэкалекцый, якія праводзіў кс. Ян Рэчэк! Мне стала лягчэй на душы, я ўбачыла прыгажосць жыцця. Калі вярнулася дамоў, падышла і дакранулася да свайго мужа, які няверуючы, а ён заплакаў…*

*Яніна, Ваўкавыск*

*Меў шмат праблем, пачуццё страху, хоць я не з баязлівых. Часам не бачыў выхаду з некаторых жыццёвых сітуацый. На рэкалекцыях у Росі адкрыў Езусу сваё сэрца, перажыў глыбокае пакаянне, прабачыў крыўдзіцелям і… адчуў сябе нанова! Мяне ўразіла малітва аб перапыненні грахоўнай сувязі з продкамі. Ніколі пра гэта не чуў раней…*

*Рэкалекцыі даюць надзею, унутраны спакой, палёгку, дапамагаюць абнавіць веру. Усё раптам становіцца зразумелым. Ты ўзмацняешся, становішся больш сталым духоўна. Хочацца жыць і тварыць.*

*Аляксандр, Гродна*

*У Росі я зразумела Божую волю адносна таго, чаму ў нас з мужам на працягу 11-ці гадоў няма дзяцей: аборты продкаў. Цяпер мы бацькі. Удачарылі дзяўчынку і верым, што ў нас яшчэ будуць свае дзеці.*

*Алена, Ліда*

*У Росі асаблівая малітоўная атмасфера. Пасля рэкалекцый адчуваеш, як у цябе вырастаюць крылы! Канешне, усе жыццёвыя праблемы не знікаюць, але папросту інакш на іх цяпер глядзіш. Падчас рэкалекцый заўсёды пішу канспекты. І калі пасля зачытваю іх знаёмым, заўважаю, як яны знаходзяць у іх адказы на свае жыццёвыя пытанні.*

*Ірына, Ліда*

*Матэрыялы паласы падрыхтавала Ангеліна Пакачайла*




Catholic.by

### *У Рыме абмяркуюць лёс зачыненых касцёлаў*

***З гэтай мэтай адбудзецца 2-дзённая міжнародная канферэнцыя, удзельнікі якой разгледзяць феномен месцаў культу, якія больш не выкарыстоўваюцца.***

*Падчас канферэнцыі пад назвай “Бог тут больш не жыве? Праца з месцамі культу і комплекснае кіраванне спадчынай Касцёла” сабраныя засяродзяцца на пошуку рашэнняў сур’ёзнай і актуальнай, асабліва для Заходняй Еўропы, праблемы закрыцця касцёлаў і іх новага прызначэння.*

CatholicNews.by

### *Нацыянальнае чытанне Біблii*

***Паводле рашэння хрысціянскіх Цэркваў і Украінскага біблійнага таварыства, 2018 год быў аб’яўлены ва Украіне Годам Божага Слова. Адным з мерапрыемстваў, запланаваных з гэтай нагоды, стала бесперапыннае чытанне Святога Пісання.***

*Падчас акцыі, якая праходзіла ў Кіеве, Біблія была прачытана ўслых ад пачатку да канца і без перапынкаў прыкладна 350-цю чытальнікамі: кіраўнікамі цэркваў і святарамі з усёй краіны, вядомымі дзеячамі культуры, прадстаўнікамі ўлады і замежнымі гасцямі. Божае слова гучала на ўкраінскай і рускай, старажытнаяўрэйскай, старажытнагрэчаскай, стараславянскай і лацінскай, а таксама на многіх сучасных замежных мовах.*

*Акцыя “Нацыянальнае чытанне Біблii” таксама намінавана ў Нацыянальны рэестр рэкордаў Украіны як самае масавае і самае працяглае мерапрыемства з чытання ўслых.*

eKai.pl

### *Пенсіянеры евангелізуюць праз “BlaBlaCar”*

***Французская сямейная пара, якая часта вандруе, беручы з сабой спадарожнікаў, пастанавіла выкарыстоўваць супольныя паездкі для евангелізацыі новых знаёмых.***

*72-гадовыя сужэнцы Мары-Франс і Губерт штогод пераадольваюць аўтамабілем 30-40 тыс. кіламетраў, галоўным чынам наведваючы сваіх дзяцей і ўнукаў. Згодна з моднымі ў Францыі сумеснымі паездкамі, каб зэканоміць на дарожных выдатках, яны часта бяруць з сабой спадарожнікаў, дамаўляючыся праз папулярную паслугу “BlaBlaCar”.*

*Сужэнцы перакананыя, што іх спадарожнікі папярэдне “падрыхтаваныя і пасланыя Богам”. Кіроўца разам з жонкай запрашаюць іх да супольнай малітвы перад адпраўленнем, а падчас дарогі частуюць закускамі.*




### Ці мае права і ці павінен Касцёл умешвацца ў асабістае жыццё чалавека, нават калі гэта не датычыць духоўных аспектаў?

Касцёл вандрue разам з усім чалавецтвам па дарогах гісторыі. Ён знаходзіцца ў свеце, хаця ён не са свету (параўн.: Ян 17, 14–16), але прызваны служыць яму, ідучы за сваім унутраным пакліканнем.

Што датычыць Рыма-Каталіцкага Касцёла, то ён мае апалітычны характар. Касцёл – гэта Божая сям'я, і да яго праз хрост належаць людзі розных поглядаў. Задача Касцёла – абвяшчаць Добрую Навіну і весці Божы люд да вечнага жыцця. Выконваючы місію абвяшчэння Евангелля, Касцёл у імя Хрыста не дыктуе, але нагадвае чалавеку пра яго асабістую годнасць і пакліканне да супольнасці асоб. Ён вучыць чалавека патрабаванням справядлівасці і спакою, якія адпавядаюць Божай мудрасці. Касцёл мае права быць для верніка настаўнікам праўд веры, аднак не толькі дагматычных, але таксама і маральных, што вынікаюць з самой чалавечай прыроды і з Евангелля, словы якога прызначаны не толькі для слухання, але і для ажыццяўлення (параўн.: Мц 7, 24; Лк 6, 46–47; Ян 14, 21. 23–24; Як 1, 22).

Для Касцёла сацыяльнае вучэнне не з'яўляецца нейкім прывілеем, адхіленнем ці клопатам пра асабістую карысць або ўмяшаннем у чужыя справы. Касцёл мае права евангелізаваць сацыяльную сферу, г. зн. абвяшчаць Евангелле ў складаным свеце вытворчасці, працы, прадпрымальніцтва, фінансаў, гандлю, палітыкі, юрыспрудэнцыі, культуры, грамадскіх адносін, у якіх жыве чалавек – член Касцёла. Гэта права адначасова з'яўляецца абавязкам, паколькі Касцёл не можа адрачыся ад яго, не здрадзіўшы самому сабе і не парушыўшы вернасць Хрысту: "Гора мне, калі б я не абвяшчаў Евангелля" (1 Кар 9, 16).

Перасцярога, якую св. Павел скіроўвае да сябе, гучыць у сумленні Касцёла як заклік прайсці ўсе магчымыя шляхі евангелізацыі: не толькі тыя, якія вядуць да сумлення асобнага чалавека, але і тыя, што накіраваны да грамадскіх інстытутаў. З аднаго боку, нельга абмяжоўваць рэлігію рамкамі прыватнага жыцця, а з другога, нельга лічыць хрысціянскую навіну толькі прапаведаваннем выключна пазазямнога збаўлення, якое не здольна асвятліць нашае жыццё на зямлі.

Задача Касцёла – заўсёды і ўсюды абвяшчаць маральныя прынцыпы, у тым ліку тыя, што належаць да грамадскага парадку, і тым самым ацэньваць усякую людскую справу, калі гэтага патрабуюць асноўныя правы чалавечай асобы і збаўленне душ.

Касцёл навучае і ацэньвае дзеянні згодна з Евангеллем, але ніколі не дыктуе. Бог стварыў чалавека свабодным. Тут верніку важна разумець розніцу: чым з'яўляецца свабода, а што такое ўсёдазволенасць.

*А. Аляксандр Махнач SP*
**Паводле catholicnews.by**

● працяг са с. 1

# Сужэнства, асвечанае Маці Божай

*Санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях – месца, дзе асаблівым чынам моляцца за сем'і, каб кожная з іх узрастала ў веры і трывала з Хрыстом, захоўваючы і памнажаючы скарб веры. Сюды часта прыбываюць маладыя людзі, каб прасіць Марыю дапамагчы знайсці будучага мужа ці жонку. Сюды едуць ці ідуць сужэнцы, каб падзякаваць за свае сем'і і дзяцей ці прасіць аб жаданым патомстве. Многія ўдзячны Багародзіцы за ласкі, якія атрымала іх сям'я. Яны вераць, што Маці Божая Тракельская выпрасіла для іх патрэбныя бласлаўленні ў свайго Сына.*

*Сёлетняя ўрачыстасць у санктуарыі стала днём нараджэння новай сям'і, якая хоча далей пілігрымаваць праз жыццё, стварароўчы будучыню на Божым фундаменце. Як адзначылі самі сужэнцы, тракельскі санктуарый яны абралі месцам гэтай важнай падзеі ў сваім жыцці невыпадкова. Першы раз яны сустрэліся ў пешай пілігрымцы Іўеўскага дэканата ў Тракелі. Ішлі разам, размаўлялі, і тады нішто не ўказвала на тое, што іх жыццё павернецца такім чынам і яны будуць звязаны назаўсёды. Пасля некалькіх гадоў яны нарэшце прынялі прадуманае і адважнае рашэнне стаць адным. У гэтым годзе таксама прайшлі разам 5 дзён дарогі, каб на заканчэнне сёлетніх урачыстасцей выйсці з тракельскага санктуарыя як муж і жонка.*



## Гражына

***Пасля пілігрымкі Іўеўскага дэканата да Маці Божай Тракельскай жыццё раскінула нас. Мы больш не бачыліся, аж да таго моманту, як Артур напрыканцы мінулага года не павіншаваў мяне з Божым Нараджэннем. З таго часу мы нанова распачалі нашае знаёмства. Так атрымалася, што не мелі магчымасці шмат бачыцца, і бліжэй знаёміліся адзін з адным праз размовы і гутаркі. У хуткім часе Артур стаў маім лепшым сябрам, з якім магла дзяліцца сваімі радасцямі і нягодамі. Мяне гэта нават здзівіла, бо мы сапраўды былі знаёмыя дастаткова кароткі час, а здавалася, што амаль усё жыццё.***

***Праз гады з першага знаёмства мы спаткаліся зноў у Нядзелю Божай Міласэрнасці – і адгэтуль негалосна пачаліся нашыя ўзаемаадносіны. Я здзівілася сваім адчуваннем, калі зразумела, што кахаю. Нават не ведала, што мне з гэтым каханнем рабіць. Але ў пэўны момант падчас адной з размоў высветлілася, што і Артур адчувае тое ж самае. Былі пэўныя знакі, зразумелыя толькі нам. Былі пэўныя моманты, якія нельга было самастойна не толькі прадумаць, арганізаваць, але папросту нават уявіць такую магчымасць. Ва ўсім нам дапамагаў Бог. Я веру, што гэта Ён нанова звёў нас разам. Так мы і вырашылі крочыць па жыцці рука аб руку.***

***Упэўнена, што трывалую сям'ю можна пабудаваць толькі на фундаменце веры. Сапраўды веру і ведаю, што мне самой на гэта не хопіць моцы. Я прывыкла давяраць Богу кожны свой дзень, кожны крок стараюся ступаць разам з Ім. Вельмі страшна прымаць такія адказныя рашэнні адной, а з Богам усё становіцца проста. Я веру, што цяпер мая сям'я знаходзіцца пад Божай апекай.***

***Сёлета было вельмі прыемна зноў крочыць да Маці Божай. Вельмі ўдзячныя, што Яна падаравала нам такую магчымасць: чарговы раз ісці да Яе, несці свае інтэнцыі і падзякі. Мы абодва маліліся, каб Марыя ўзяла пад сваю апеку нашу сям'ю, якая хутка ўтворыцца, каб узмацніла наша каханне, каб мы сталі годнымі сужэнцамі адзін для аднаго.***

***Калі сям'я і сябры даведаліся пра нашы планы ўзяць шлюб у Тракелях, спачатку крыху здзівіліся, бо з некаторага пункту гледжання гэта сапраўды не зусім традыцыйны варыянт вяселля, але потым падтрымалі такую задуму. Родныя з радасцю прыехалі на ўрачыстасці, каб раздзяліць з намі гэты цудоўны момант жыцця.***





## Артур

***Пілігрымка – гэта не проста вандроўка, не проста крочанне кудысьці разам, а сапраўднае "жыццё ў мініяцюры". У пілігрымцы мы праходзім праз розныя цяжкасці і выпрабаванні, пераадольваем гэты шлях з пэўнымі асабістымі інтэнцыямі, знаёмімся, молімся разам і, чаму не, атрымліваем адказы на цяжкія пытанні, якія кожны мае ў сваім сэрцы. У адной з такіх пілігрымак мы і пазнаёміліся. Хлопец, які ў чарговы раз ішоў у пілігрымцы да Маці Божай Тракельскай, і дзяўчына, што таксама зноў туды накіроўвалася. З рознымі інтэнцыямі, з рознымі клопатамі, але па адной дарозе.***

***На той момант гэта было проста знаёмства. Двое маладых людзей даведаліся пра існаванне адзін аднаго, памаліліся разам, паспявалі, дайшлі да Тракеляў, і кожны далей накіраваўся сваёй дарогай. Да таго пэўнага моманту, калі Маці Божая зноў нас звяла. І адбылося гэта ў самы патрэбны момант, калі кожны з нас перажываў занепакоенасць за сваю будучыню, не ведаў, як жыць далей, што рабіць, да чаго імкнуцца. Гэтым момантам была св. Імша Пастэрка ў Вігілію Божага Нараджэння, і, як атрымалася, таксама ў вігілію нараджэння новага кахання. Мы ўдзельнічалі ў начной св. Імшы ў розных кутках краіны, мелі ў нашых сэрцах розныя інтэнцыі. Але раптам я, стоячы пры алтары ў якасці міністранта, пытаючыся ў Бога пра сябе, пра тое, што мне рабіць далей, які план Ён мае для мяне, пачуў у галаве салодкі жаночы голас, які назваў мне пэўнае імя. Сярод маіх знаёмых была толькі адна дзяўчына з такім імем. Я адразу ўспомніў пілігрымку, тыя радасныя моманты, пераадоленыя разам, тое пачуццё веры, поўнага даверу Маці Божай.***

***Як аказалася, не адзін я ў той момант пра гэта ўспомніў і меў такія пытанні ў сэрцы. Мы зноў знайшлі адзін аднаго. Выйшлі на сувязь, сталі падтрымліваць кантакт, дзяліліся ўсім, што мелі на душы. І атрымлівалі зразумелыя толькі нам знакі з Неба. Калі нешта відавочна было немагчымым альбо цяжка ажыццяўляльным, усё раптам станавілася лёгкім, заставалася толькі радавацца і дзякаваць Богу. Так было амаль штодзень. Мы нанова пазнаёміліся тады, калі абодва былі да гэтага гатовыя. Тады, калі настаў час, вызначаны Найвышэйшым.***

***Кожны з нас бачыў, што Бог стварыў нас адзін для аднаго, нягледзячы на ўвесь мінулы жыццёвы шлях, што гэта Маці Божая зноў нагадала нам адзін пра аднаго. І на гэты раз – для жыцця, супольнага жыцця ў веры, надзеі і любові да Бога і бліжняга. Мы вырашылі, дзверыца Марыі канчаткова і склалі сужэнскія абяцанні перад Ёй у канцы той самай пілігрымкі, у якую Маці Божая нас калісьці накіравала, каб пазнаёміліся...***

***Калі хтосьці думае, што Бог яго не чуе, ён памыляецца. Усемагутны чуе кожную просьбу, кожнае слова падзякі, і адорвае нас тым, чаго дакладна патрабуем. Мы не бачым поўную карціну таго, што адбываецца, але яе бачыць наш Стварыцель і любячы Айцец. А Маці Божая вядзе па жыцці і атуляе сваёй апекай. Давярыца Богу – найлепшае рашэнне. Толькі з Яго прысутнасцю можна быць шчаслівымі. Няхай здзейсніцца воля Пана ў жыцці кожнага з нас. Марыя, вядзі нас!***

*Кс. Юрый Марціновіч,*
*Кінга Красіцкая*

## НАВІНЫ



### УРАЧЫСТАСЦІ Ў ГОНАР МАЦІ БОЖАЙ ШКАПЛЕРНАЙ

Сёлета ўрачыстасці ў гонар Маці Божай Шкаплернай у дыяцэзіяльным санктуарыі ў Гудагаі (дэканат Астравец) адбыліся пад дэвізам "Праз Марыю да Езуса". Галоўную св. Імшу ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр. Іерарх прыбыў у санктуарый з рэліквіямі св. Яна Паўла II, якія пасля былі ўрачыста ўнесены ў святыню.

### ПРЫЗНАЧЭННІ



Першы намінацыйны дэкрэт уручаны біскупам Гродзенскім Аляксандрам Кашкевічам новапрэзбітэру Андрэю Каўшуку. Святар прызначаны вікарыем у парафію Святой Сям'і ў Лідзе.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



30-я Міжнародная парафіяда дзяцей і моладзі адбылася ў Варшаве (Польшча). У ёй удзельнічалі прадстаўнікі Гродзенскай дыяцэзіі з 15-ці парафіяльных супольнасцей. Каманда гродзенскай парафіі Маці Божай Міласэрнасці ва ўзроставай катэгорыі 14–16 гадоў заняла 1-ае месца па футболе. Каманда выйграла ва ўсіх матчах і фінале. Акрамя таго, прадстаўнікі парафіі занялі 1-ыя месцы па бадмінтоне (Валерый Саўрук), плаванні, класічны стыль (Альберт Ронік) і вольны стыль (Альберт Ронік), 2-ія месцы па шашках (Вераніка Жыгуліч), у конкурсе малюнка (Аліна Саўрук) і 3-яе месца па настольным тэнісе (Кірыл Тарасюк).

### АДНЫМ РАДКОМ



• Веласіпедныя пілігрымкі адбыліся з Геранёнаў (дэканат Іўе) і Шчучына ў Тракелі. • Моладзь з гродзенскіх парафій Святога Духа, Адшукання Святога Крыжа і св. Францішка Ксаверыя разам са святарамі і семінарыстамі выйшлі на гарадскі "брадвей", каб праз спеў даць сведчанне сваёй веры. • 25-годдзе асвячэння касцёла пад тытулам св. Альжбеты Вянгерскай і Божай Міласэрнасці адзначылі ў Падароску (дэканат Ваўкавыск). • У Навагрудку ў кляштары Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта (назарэтанкі) адбыліся рэкалекцыі для сем'яў, у якіх прынялі ўдзел больш за 70 сужэнцаў разам з дзецьмі.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by***

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**23 ліпеня 1955 г.** – кс. Юзаф Кавальчук, *проб. Індура;*
**24 ліпеня 1963 г.** – кс. Францішак Пятровіч, *проб. Нястанішкі;*
**26 ліпеня 1993 г.** – кс. Станіслаў Шока SDB, *душп. Ліда;*
**26 ліпеня 2009 г.** – кс. прэлат Мар'ян Маргуж, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**27 ліпеня 1932 г.** – кс. Антоній Аўдыцкі, *проб. Заневічы;*
**31 ліпеня 1942 г.** – кс. Юзаф Кучынскі, *проб. Уселюб;*
**31 ліпеня 1942 г.** – кс. Міхал Далецкі, *проб. Навагрудак;*
**2 жніўня 1989 г.** – кс. Рышард Вербель, *проб. Рось;*
**9 жніўня 2002 г.** – кс. канонік Баляслаў Завістоўскі, *проб. Селіванаўцы;*
**11 жніўня 2015 г.** – кс. прэлат Міхал Сапата, *ген. вік.;*
**14 жніўня 1996 г.** – кс. прэлат Баляслаў Гаўрыхоўскі, *проб. Гожа;*
**17 жніўня 1978 г.** – кс. Станіслаў Хадыка, *проб. Гервяты;*
**17 жніўня 1978 г.** – кс. Чэслаў Штэйн, *проб. Радунь;*
**28 жніўня 1982 г.** – кс. Ян Балтралік, *проб. Лабна;*
**30 жніўня 1973 г.** – кс. прэлат Юзаф Інгелевіч, *ген. вік., проб. Астравец;*
**30 жніўня 1991 г.** – кс. інфулат Міхал Арановіч, *ген. вік., проб. Гродна;*
**3 верасня 1987 г.** – кс. Апалінарый Зубелевіч, *проб. Канвелішкі;*
**4 верасня 1941 г.** – кс. Альфонс Гродзіс, *проб. Першамайск;*
**4 верасня 1956 г.** – кс. Вацлаў Драб, *проб. Струбніца;*
**5 верасня 1939 г.** – кс. Баляслаў Корнь, *проб. Мікелеўшчына;*
**9 верасня 1959 г.** – кс. Чэслаў Дабулевіч, *проб. Нача.*

## АНОНСЫ

### РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ АДБУДУЦЦА Ў ТРАКЕЛЯХ

**На духоўныя практыкаванні, якія будуць праходзіць з 26 ліпеня па 2 жніўня пры Дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў, запрашаюць сёстры салезіянкі.**

У праграме рэкалекцый запланаваны: малітва, канферэнцыі, час на разважанне, адпачынак, гульні і забавы.

*Па пытаннях запісу і за падрабязнай інфармацыяй можна звяртацца па тэлефонах: (8 033) 665-82-56 – с. Тэрэза Сольнічэк FMA, (8 029) 382-55-92 – с. Вераніка Огар FMA.*

### ЛЕТНІК "РАСПАЗНАННЕ ПАКЛІКАННЯ" АРГАНІЗУЕЦЦА ДЛЯ ЮНАКОЎ

**Ён будзе праходзіць з 26 ліпеня па 7 жніўня ў аграсядзібе "Мажэйкі" Пастаўскага раёна (Віцебская дыяцэзія).**

Мэтай летніка з'яўляецца распазнанне асабістага паклікання, а таксама радаснае і духоўна плённае правядзенне часу. Айцы салезіяне прапануюць удзельнікам братэрскую атмасферу жыцця ў супольнасці; канферэнцыі, якія паглыбяць тэматыку распазнання паклікання і жыцця ў ім; сумесную малітву і духоўныя практыкаванні; гульні і цікавыя сустрэчы.
Тэма сёлетняга летніка: "Леў і Баранак" – 2 найбольш яскравыя сімвалы Хрыста ў Бібліі. На іх падставе хлопцам прапануюць паразважаць над сваім жыццём і пакліканнем.

*Летнік разлічаны на юнакоў ва ўзросце ад 14-ці гадоў.*
*Падрабязнасці па тэлефоне: (8 029) 761-70-17, дк. Артур Ляшнеўскі SDB.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА РАБОТНІКАЎ АДУКАЦЫІ ПРОЙДЗЕ Ў ТРАКЕЛЯХ

**VIII Дыяцэзіяльная сустрэча выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў Гродзенскай дыяцэзіі адбудзецца 25 жніўня ў санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў.**

**Праграма:**
11.00 – прывітанне і агульная малітва;
11.15 – канферэнцыя на тэму "Евангелле Хрыста – Крыніца выхавання і штодзённага служэння";
– перапынак на каву;
11.45 – выстаўленне і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
12.30 – св. Імша;
14.00 – абед;
15.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці;
– праца ў групах: "Святыя як прыклад навучання і выхавання";
– перапынак на каву;
16.30 – падвядзенне вынікаў працы ў групах і завяршэнне супольнай малітвай.

*Заяўку на ўдзел у сустрэчы неабходна падаць да 22 жніўня ў дыяцэзіяльную курыю.*
*Адказны за сустрэчу: кс. Антоній Грэмза – (8 029) 286-31-78; (8 029) 632-43-73.*

### ТЭАЛАГІЧНЫЯ КУРСЫ Ў ГРОДНЕ АБ'ЯЎЛЯЮЦЬ НАБОР НАВУЧЭНЦАЎ!

**Дадзеныя курсы пры Аддзеле каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі рыхтуюць спецыялістаў для катэхетычнай працы ў парафіях. Далучыцца да ліку студэнтаў могуць таксама тыя ахвотныя, якія жадаюць глыбей пазнаць хрысціянскую веру і стаць праваднікамі для іншых на шляху да збаўлення.**

У адукацыйнай праграме прадугледжана вывучэнне такіх прадметаў, як каталіцкая дагматыка, маральная і духоўная тэалогія, Святое Пісанне, катэхетыка, кананічнае права, літургіка, каталіцкая псіхалогія і педагогіка, этыка сямейнага жыцця і інш. Навучанне адбываецца ў завочнай форме. Працягваецца 3,5 гады.

Кандыдаты павінны да 30 жніўня прадставіць у сакратарыят Гродзенскай курыі наступныя дакументы:
– пасведчанне аб сакраманце хросту,
– атэстат сталасці,
– медыцынскую даведку,
– 4 фотаздымкі 3×4,
– ксеракопію пашпарта,
– уласнаручна напісаную аўтабіяграфію,
– рэкамендацыю ад пробашча,
– заяву з просьбай аб прыняцці.

Прадугледжана папярэдняя суразмова. Заняткі распачнуцца 29 верасня. Будуць праходзіць праз кожныя 2 тыдні па суботах і нядзелях.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у сакратарыяце курыі па тэлефоне: (8 0152) 74-00-73. Просьба тэлефанаваць у гадзінах: 10.00–13.00. E-mail для даведак: katecheza.kuria@gmail.com.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ ПІЛІГРЫМКА НА СУСТРЭЧУ З ПАПАМ ФРАНЦІШКАМ АРГАНІЗУЕЦЦА Ў ЛІТВУ

**22 верасня Пантыфік сустрэнецца з моладдзю (18-35 гадоў) на плошчы перад віленскай катэдрай, дзе захоўваюцца рэліквіі св. Казіміра – апекуна моладзі. Раніцай 23 верасня Папа скіруецца ў Каўнас, дзе ў мясцовым парку Santakos узначаліць нядзельную св. Імшу.**

У сувязі з прыездам Пантыфіка ў суседнюю краіну, арганізуецца дыяцэзіяльная пілігрымка ў Вільнюс і Каўнас. Выезд аўтобусамі раніцай 22 верасня, вяртанне – увечары 23 верасня.

Умовы ўдзелу ў паломніцтве:
– спіс пілігрымаў з парафіі *(пазначыць пашпартныя дадзеныя і перадаць спіс у Гродзенскую курыю да 20 жніўня);*
– пашпарт;
– віза Шэнген *(існуе магчымасць атрымаць бясплатную аднаразовую візу);*
– кошт: 60-70 бел. руб.;
– узрост удзельнікаў ад 18-ці гадоў;
– пілігрымы самастойна забяспечваюць пасілак на час падарожжа.

*Па ўсіх пытаннях звяртацца да арганізатара паломніцтва кс. Паўла Безляповіча па тэлефоне: (8 029) 266-77-03.*

## Каляндар падзей

***23 ліпеня***
*Свята св. Брыгіты Шведскай, заступніцы Еўропы.*
***25 ліпеня***
*Свята св. апостала Якуба.*
***26 ліпеня***
*Успамін свсв. Яўхіма і Ганны, бацькоў Маці Божай. Дзень удзячнасці пажылым людзям, дзядулям і бабулям.*
***4–5 жніўня***
*Урачыстасці ў санктуарыі Пана Езуса Журботнага ў Росі.*
***4 жніўня***
*Успамін св. Яна Марыі Віянэя, заступніка святароў.*
***6 жніўня***
*Свята Перамянення Пана.*
***9 жніўня***
*Свята св. Тэрэзы Бенедыкты ад Крыжа, заступніцы Еўропы.*
***14 жніўня***
*Свята св. Максімільяна Марыі Кольбэ, заступніка Гродзенскай дыяцэзіі. Дзень малітоўнай памяці аб тых, хто загінуў у лагерах і турмах за веру.*
***15 жніўня***
*Урачыстасць Унебаўзяцця НПМ. Блаславенне пладоў і кветак.*
***1 верасня***
*79-ая гадавіна распачацця II Сусветнай вайны. Сусветны дзень малітвы аб абароне стварэння.*
***8 верасня***
*Свята Нараджэння НПМ. Блаславенне зерня на пасеў.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Жнівень***
*Каб хлопцы і дзяўчаты, дарослыя мужчыны і жанчыны з дыяцэзіі, якіх Пан кліча пайсці за сабой, маглі адказаць на голас паклікання і распачаць новыя апостальскія справы ў дыяцэзіі.*
***Верасень***
*Каб бацькі і хросныя, катэхеты і настаўнікі старанна клапаціліся аб рэлігійным выхаванні дзяцей і моладзі, а сваім прыкладам жыцця пабуджалі да любові да Хрыста і Яго Касцёла.*

# ЯК ПЕРАЖЫЦЬ КАНІКУЛЫ ПА-КАТАЛІЦКУ

***Ліпень і жнівень – гэта месяцы, калі ў навучэнцаў канікулы, а тыя, хто працуе, ахвотна накіроўваюцца ў водпуск. Аднак, як сведчыць старая польская прымаўка, няма канікул у школе жыцця. Не бывае таксама адпачынку ад Пана Бога, які чакае сустрэчы ў Эўхарыстыі, у сакраманце пакаяння і паяднання, у малітве, ва ўдзячнасці за прыгажосць створанага свету. Дык як пражыць водпуск, каб ён не паўплываў негатыўна на духоўнае жыццё?***

◆ ***Неразумна ўзмацняць сваё цела, але занядбаць душу.*** *Нярэдка летам фізічная актыўнасць дасягае зеніту, а духоўная спадае да нуля. Найлепшым спосабам, каб аднавіць духоўны стан, з'яўляецца малітва і размова з Панам Богам. Аднак гаворка ідзе не пра павелічэнне малітоўных пунктаў дня, а пра сустрэчу з Усемагутным, перажываемую ў цішыні сэрца, у засяроджанні, на ўлонні прыроды. Штодзённа можна знайсці некалькі хвілін на духоўную сустрэчу з Богам і малітву.*

◆ ***Важней за ўсё не тое, дзе правядзём канікулы, але як.*** *Куды б мы не скіраваліся, усюды можам знайсці Езуса. Дастаткова толькі захацець. Ён будзе прамаўляць у шуме мора і прыгажосці гор, у цішыні манументальных катэдраў і маленькіх касцёлаў. Будзе прыходзіць падчас Эўхарыстыі і ў іншым чалавеку.*

◆ ***Варта памятаць пра нядзельную св. Імшу.*** *Яна павінна быць "сэрцам кожнай нядзелі", таксама і ў водпуску. У эру паўсюднага доступу да інтэрнэту не так ужо і цяжка знайсці касцёл побач і паглядзець, а якой гадзіне там адпраўляецца св. Імша, паколькі нядзельная Эўхарыстыя абавязковая для кожнага католіка на працягу ўсяго года. Калі ўдзел у св. Імшы сапраўды немагчымы, варта выкарыстаць сучасныя сродкі перадачы інфармацыі і дзякуючы інтэрнэту ці радыё далучыцца да цэлебрацыі літургіі духоўна.*

◆ ***Летні адпачынак – нагода, каб умацаваць сувязі з Богам.*** *Адны выбіраюць рэкалекцыі, іншыя – пілігрымку, яшчэ хтосьці наведвае санктуарый. На канікулах варта таксама забраніраваць больш часу для духоўнага чытання. На самой справе біяграфія святога можа аказацца больш захапляльнай, чым прыгодніцкі раман ці дэтэктыў.*

◆ ***Не трэба саромецца публічна даваць сведчанне сваёй веры.*** *Тады, магчыма, тыя асобы, якія не маюць нічога агульнага з Касцёлам, убачаць, што ўсё ж варта жыць з Богам.*

◆ ***Варта зрабіць сабе канікулы ад тэлебачання і сацыяльных сетак.*** *Спачатку не будзе лёгка, аднак праз некалькі дзён бясспрэчна адчуем сапраўдную свабоду. Замест таго, каб гадзінамі размаўляць са знаёмымі па тэлефоне, можна сустрэцца з імі ў рэальным свеце. Адбудуйма сямейныя і сяброўскія сувязі. Размова твар у твар з тымі, каго не бачылі ўжо доўгі час, абавязкова прынясе шмат радасці.*

***Канікулы для многіх з'яўляюцца праверкай веры і пераканання. Трэба таксама прызнацца, што лета робіць наш дух больш лянівым. Кожны тады хоча мець т. зв. "святы супакой", часта перастае быць успрымальным да пагроз і спакусы, перастае патрабаваць ад сябе, вызваляецца ад адказнасці і настроены выключна на чэрпанне прыемнасцей. Чалавек лягчэй і хутчэй адмаўляецца ад усяго, што спалучана з прыкладаннем намаганняў. Тлумачым і апраўдваем сябе тым, што "цяпер жа канікулы, а пасля іх усё вернецца ў норму".***

***Давайце сабе льготны тарыф у справах веры, адсоўваць Бога на другі план і разбураць з Ім сувязі, якія будаваліся цэлы год, небяспечна. Адпачынак павінен быць мудрым – такім, каб падчас яго заўсёды ўдавалася штосьці атрымаць, а ні ў якім разе не страціць, каб стаць мацнейшым, а не больш змучаным.***

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*




## ПАДЗЯЛІСЯ ГІСТОРЫЯЙ СВАЙГО АДПАЧЫНКУ І АТРЫМАЙ ПАДАРУНАК!

***Паважаныя Чытачы!***

*Рэдакцыя "Слова Жыцця" ўжо традыцыйна аб'яўляе конкурс прац на захапляльную гісторыю летняга адпачынку. Гэта можа быць фотаздымак, серыя або калаж, малюнак, пісьмовы аповед... Галоўная мэта – цікава распавесці пра свае канікулы з Богам.*

*У конкурсе могуць удзельнічаць чытачы любога ўзросту, індывідуальна, групамі, сем'ямі.*

*Ад удзельнікаў чакаецца арыгінальны падыход.*

***Лісты просім дасылаць да 1 верасня*** *на адрас рэдакцыі:* ***230025 г. Гродна, вул. К. Маркса, 4 –*** *або на электронную скрыню* ***slowo.grodnensis@gmail.com з пазнакай "на конкурс".***

***Лепшыя працы будуць апублікаваны ў газеце і адзначаны прызамі.***

*Рэдакцыя*

## Ад шчырага сэрца

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Віктару Велівісу і Яўгену Ціхану**

з нагоды Імянін складаем букет сардэчных віншаванняў. Няхай здароўе будзе моцным, творчыя сілы – бясконцымі, а радасць ад плёну ў працы – штодзённай. Няхай Вас заўсёды асвятляюць промні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Панны Марыі, Езус валадарыць у сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святыя Заступнікі нястомна апекуюцца Вамі. Вельмі ўдзячныя за шчырыя малітвы, павучальныя казанні, зычлівасць, дабрыню, сціпласць, цярплівасць, цудоўную ўсмешку, а таксама клопат пра людзей і касцёл. Аддзяч Божа!

*З глыбокай павагай, парафіяне з касцёла св. Казіміра ў Путрышках*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вінцэнту Лісоўскаму**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, шчодрага плёну ў працы на ніве Пана, а таксама Божай дапамогі на нялёгкім святарскім шляху, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень і добразычлівых людзей побач.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Ліда*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем душэўнага супакою, радасці, нястомных сіл, моцнага здароўя, шчасця, паспяховай рэалізацыі ўсіх планаў і добразычлівых людзей побач. Няхай Бог блаславіць кожны момант жыцця, Марыя адорвае сваёй ласкай і апекай, а Анёл-ахоўнік абараняе ад усякага зла.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Мастоў*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму**

з нагоды Імянін жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, шчасця. Няхай радасць заўсёды Вам спадарожнічае, а цярплівасці і стойкасці хопіць на доўгія гады адданай душпастырскай працы. Няхай Вас абмінае смутак, а жыццё праходзіць у радасці. Няхай Маці Божая асвячае Ваш шлях промнямі сваёй міласэрнасці.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчодрых дароў Святога Духа, Божых ласкаў і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў і супакой назаўсёды заяснеюць у сэрцы.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Трабаў*

**Паважаны Ксёндз Валерый Быкоўскі!**

У Ваш Дзень нараджэння прыміце нашы цёплыя і шчырыя словы:

Хай Пан спашле Вам ласкі,
У пакліканні ўзмацняе, бароніць,
калі трэба,
І простай, вернай сцежкай Вас вядзе
да Неба.
Сваім святарскім сэрцам спявайце Яму
ў падзяку:
За службу для Хрыста,
за вялікую адзнаку.
А мы Вам сёння шчыра ўсміхаемся
І разам з пажаданнямі
малітвы Богу ўзносім.

*Апостальства "Маргарытка" з Рэплі*

**Паважаным Ксяндзу Віктару Субелю і Сястры Ганне**

з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя віншаванні. Жадаем Хрыстовай любові, Божага блаславлення, плёну ў службе Богу і людзям. Няхай святыя Заступнікі засцерагаюць Вас ад няшчасцяў і дапамагаюць у кожную хвіліну жыцця, Маці Божая Нястомна трымае ў сваёй апецы, а дабрыня і зычлівасць, якую дорыце людзям, заўсёды да Вас вяртаюцца. Будзьце і надалей для нас прыкладам моцнай веры і набожнасці! Дзякуем за адказную паслугу і клопат пра кожнага з нас.

*З павагай і малітвай, касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, жыццё – доўгім, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай Вас заўсёды ахінаюць промні Божай міласэрнасці, Святы Дух адорвае сваімі ласкамі, а Маці Божая няспынна Вамі апекуецца. Пан Езус няхай валадарыць у сэрцы, а святы Заступнік заўсёды стаіць побач.

*Верныя парафіяне з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды надыходзячага Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: Божага блаславлення, душэўнага супакою, шмат радасці і здароўя на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай Бог праз нашы малітвы дададасць неабходных сіл. Няхай Святы Дух спашле на Вас свае дары, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахіне нябесным плашчом ад небяспек і атуліць мацярынскай любоўю. Дзякуем за добрае сэрца, што вучыце нас любіць Бога і бліжняга, а Вашай маме – за сына святара.

*З малітвай і павагай, вернікі з касцёла св. Юрыя ў Варончы і капліцы ў Вароне*

*Ад усяго сэрца хочам падзякаваць Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі, выкладчыкам і выхавацелям, а таксама бацькам* ***Ксяндза Алега Яновіча*** *за тое, што выгадавалі і выхавалі такога святара. Мы, парафіяне, удзячныя Ксяндзу Алегу за яго працу ў нашым касцёле. Святар заўсёды падрыхтаваны да абвяшчэння Божага слова. Яго казанні вернікі слухаюць вельмі ўважліва. Жадаем Ксяндзу Алегу здароўя, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, цярплівасці, дабрыні, любові на святарскім шляху, нястомных сіл на для службы Богу і людзям. Дзякуем яму за ахвярную працу, цеплыню і добразычлівае сэрца.*

*Удзячныя парафіяне з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла з Іўя*

***У сувязі з водпускам супрацоўнікаў рэдакцыі наступны нумар газеты "Слова Жыцця" выйдзе 9 верасня.***

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3754; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная